Памяць XX стагоддзя 1909

# Чандзі Барабудур

Міхал МАТУШ

Інданезію называюць краінай цудаў. І гэта адпавядае праўдзе: 13,5 тысячы астравоў, 400 дзеючых вулканаў, болей за 2 метры гадавых ападкаў на раўнінах і болей за 3 метры ў гарах, 430 відаў птушак, 24 тысячы кветкавых раслінаў, самая вялікая шчыльнасць насельніцтва (500 чалавек на квадратны кіламетр), вечназялёныя джунглі. Толькі тут жыве арангутан — дужая чалавекападобная малпа, здольная перамагчы кракадзіла і пітона. Менавіта ў Інданезіі знайшлі астанкі пітэкантрапа, тут быў адзін з цэнтраў, дзе фармаваўся сучасны чалавек. Але найбольшы цуд — чандзі Барабудур (чандзі — помнік мануменальнага дойлідства старажытнай Інданезіі).

Гэта будыйскае свяцілішча, якое знаходзіцца на востраве Ява ў сарака кіламетрах ад горада Джак'якарта. Барабудур — унікальны шэдэўр сакральнай архітэктуры. Яно было пабудаванае ў VIII—IX стагоддзях, у часы росквіту імперыі Шрывіджайя. Няблага ўзгадаць, што ў тыя часы свяцілішчамі нашых продкаў служылі неапрацаваныя валуны на пагорках ці на беразе рэчак.

Барабудур — гэта агромністая ступеньчатая піраміда з дзевяцію тэрасамі. Звыш за мільён каменных блокаў было



Барабудур. Здымак з аэраплана. 1920г.

пакладзена без раствора і злучана з дапамогай выступаў і выемак, што дазваляла пабудове вытрымліваць хістанні грунту падчас землятрусаў. Аснову чандзі стварае квадрат са старанамі 120 метраў. Сцены апірышча маюць вышыню 4 метры. Над ім узвышаюцца пяць тэрасаў, кожная на два метры вышэйшая за папярэднюю, агароджаныя балюстрадай. Верхнюю частку чандзі складаюць тры круглыя тэрасы, на якіх пастаўленыя каменныя ступы. Скрозь прарэзы праглядаюцца змешчаныя ўнутры скульптуры дхіяні (трансцэдэнтнага Буды). Скульптуры, хоць і здаюцца аднолькавымі, на справе розняцца сімвалікай жэстаў, зразумелых будыстам. Над усім узвышаецца вялізная ступа ў выглядзе звону. Вышыня пабудовы — 35 метраў над зямлёй (такую ж вышыню мае храм майя ў Чычэн-Іца, але ён пабудаваны ў XII стагоддзі). Дзевяць тэрасаў дзеляць пабудову на тры часткі, якія адпавядаюць тром сферам Сусвету ў будыйскай касмагоніі: сферы жаданняў, сферы форм і сферы пазаформеннага.

Сцены тэрасаў і балюстрадаў аздобленыя барэльефамі. Іх агульная працягласць 2,5 кіламетры пры вышыні 2 метры. На сцяне апірышча высечаныя 160 рэльефных сюжэтаў вышынёй 3 метры. Такім чынам, наведвальнік святыні можа ўбачыць 6 тысяч квадратных метраў каменнай скульптуры, якая апавядае пра жыццё прынца Сідхартхі Гаутамы (людское імя Буды), ягоныя падарожжы, яго вучняў, перамогу над спакусамі дэмана зла Мары і г. д.

Лічыцца, што Барабудур быў месцам паломніцтва да XIV стагоддзя, калі ў Інданезію прыйшоў іслам. Пакінуты і забыты чандзі хутка паглынулі джунглі. Яны ахоўвалі яго па 1814 год, калі галандскі інжынер Карнэліус пачаў расчыстку помніка. Яна цягнулася 20 гадоў (высеклі расліны на помніку і джунглі навокал, ачысцілі ад зямлі і смецця). Адкрыты помнік уразіў тагачасны свет, хоць і быў моцна пашкоджаны лібневымі апоўзнямі. Са сценаў за прамінулыя стагоддзі выпалі дзесяць тысяч блокаў.

Добрым геніем Барабудура стаў Тэадор ван Эрп, які ў 1908—1910 гадах праводзіў рэстаўрацыю помніка. Пасля даследаванняў стану чандзі Эрп давяраўся інтуіцыі і прыняў рашэнне разабраць тры верхнія ярусы, ачысціць камяні і зноў сабраць. У 1909 годзе 600 рабочых выканалі план Эрпа. Гэта, як аказалася, выратавала Барабудур ад разбурэння. Зрабіць большае на той час было немагчыма.

Толькі праз 60 гадоў, калі Інданезія атрымала незалежнасць, калі была ўтвораная ААН і пры ёй ЮНЕСКА, удалося прыняць рашэнне пра поўную рэстаўрацыю помніка. Спецыялісты скарысталі вопыт Тэадора ван Эрпа. Работа, пачатая ў 1975 годзе, заняла сем гадоў. Яна каштавала 20 мільёнаў долараў. Кожны блок быў пазначаны, пасля гэтага пабудову разабралі, камяні апрацавалі вадой, шчоткамі, маскамі з хімікатаў. Узгаданыя вышэй 10 тысяч блокаў былі ідэнтыфікаваныя і пастаўленыя на адпаведныя месцы. Штуршок, нададзены рэстаўрацыяй 1909 года, вярнуў Барабудур у лік шэдэўраў сусветнай культурнай спадчыны. І зараз старажытная святыня ўражвае майстэрствам людзей, якія ўвасобілі сваю задуму ў камені і пра якіх мы ведаем толькі адно — яны былі геніі мастацтва. ■

ТРАДЫЦЫІ

# У ноч на Івана Купалу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У ноч з 22 на 23 чэрвеня прадстаўнікі Згуртавання беларускай моладзі «Еўрапейскі шлях» і культурна-асветніцкай арганізацыі «Беларуская хатка» (Мар'іна Горка) правялі аб'яднанае святкаванне Купалля на рацэ Таль, што на мяжы Пухавіцкага і Асіповіцкага раёнаў.



Фота Ул. ШЛАПАКА



Фота Ул. ШЛАПАКА

Перад тым, як распачаць купальскія абрады, моладзь абышла паселішча Талька, спяваючы песні, запрашаючы мясцовых жыхароў прыняць удзел у святкаванні.

Усё было ў гэтую чароўную ноч: збіранне зёлак на крупнік, скокі праз вогнішча, гульні пад голас старажытнай дуды, пошукі папараць-кветкі.

Купалле — адно з самых старадаўніх і шанаваных у народзе святаў. Кажуць, што тых, хто сустрэне гэтае свята з песнямі і абрадамі, чакае шчаслівы год. ■

КАПІТАЛ

# Хто на свеце самы багаты?

## У лідэрах – бізнесмены, якія зарабляюць на камп'ютэрных тэхналогіях. Як і раней, наперадзе ўсіх Біл Гейтс – з 90 мільярдамі долараў

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Амерыканскі часопіс Forbes надрукаваў спіс самых багатых людзей у свеце – тых, хто зарабляе грошы сам. Сем першых асобаў у гэтым спісе – амерыканцы. Дарэчы, яшчэ якіх дзесяць гадоў таму амаль усю першую дзесятку займалі прадстаўнікі Японіі.**



Старшыня рады дырэктараў сусветна вядомай кампаніі Microsoft **Біл Гейтс**

Узначальвае спіс студэнт-недавучка і камп'ютэрны магнат, старшыня рады дырэктараў сусветна вядомай кампаніі Microsoft і былы яе прэзідэнт 43-гадовы **Біл Гейтс**, які за апошні год амаль падвоіў сваё багацце – з больш чым 50 мільярдаў да 90. У «святой» справе накаплення багацця яму не перашкодзілі нават амерыканскія ўлады, якія зусім нядаўна «драконілі» яго за парушэнне антыманапольнага заканадаўства. Тым не менш, Microsoft як праводзіў агрэсіўную маркетынгавую палітыку, так і праводзіць, і ўсё больш людзей набываюць прадукцыю менавіта гэтай кампаніі – хоць часта незадаволеныя яе якасцю. Цікава, што апошнім часам Біл Гейтс актыўна займаецца дабрачыннасцю – на гэтыя мэты ён ужо выдаткаваў некалькі мільярдаў долараў і дужа перагнаў па гэтым паказчыку ўсім вядомую «акулу дабрачыннасці» Джорджа Сораса.

Другое месца заняў 68-гадовы **Уорэн Бафет** – ён «каштуе» 36 мільярдаў. Ён зарабляе грошы на інвестыцыях і, як бачым, можа гэта рабіць вельмі ўдала. Апошні год кошты на амерыканскія акцыі толькі падвышаліся, а славуты індэкс Доў-Джонса, які вылічваецца на падставе коштаў акцыяў найбуйнейшых амерыканскіх карпарацыяў, упершыню пераcягнуў мяжу ў 10 тысяч долараў.

Трэцяе і чацвёртае месцы таксама належаць людзям, якія маюць непасрэднае дачыненне да камп'ютэраў і, больш за тое, да кампаніі Microsoft. Гэта паплечнікі Біла Гейтса **Пол Ален** (30 мільярдаў) і **Сцівен Балмер** (19,5 мільярдаў). Абодва атрымалі такое багацце, бо валодаюць значнымі пакетамі акцыяў Microsoft. Да таго ж, у ліпені мінулага года Сціў Балмер змяніў на пасадзе прэзідэнта кампаніі Біла Гейтса.

На пятым месцы – **Філіп Аншутц**, 49 гадоў, 16,5 мільярдаў долараў. Гэта нафтавы і чыгуначны магнат, які цяпер вельмі ўдала займаецца і тэлекамунікацыйнымі праектамі. Шостае месца за **Майклам Дэлам**, самым маладым з першай дзесяткі – яму толькі 34 гады, а мае ён ужо 16,5 мільярдаў долараў. Асноўная крыніца даходаў Майкла Дэла – камп'ютэрная кампанія Dell Computer Corp.

Сёмае месца належыць **Уолтану Робсану**, ён мае 15,8 мільярда долараў. Першапачатковы капітал ён атрымаў у спадчыну (усе папярэднія асобы ў спісе зарабілі яго самі). Бізнес Уолтана Робсана пачаўся ў 1962 годзе з адной універсальнай крамы – а цяпер іх у яго 3.600, за год у іх рэалізуецца тавараў на 132 мільярды.

Першага неамерыканца прапусцілі ў спіс багачоў толькі на восьмае месца. Гэта прынц з Саудаўскай Аравіі **Алуалід Бін Талал Альсауд**. Прынц мае 15 мільярдаў долараў, большую частку з якіх ён атрымаў ад бацькоў, і распараджаецца вялікім партфелем акцыяў амерыканскіх і еўрапейскіх кампаніяў.

Нямецкая сям'я **Тэа і Карл Альбрэхт** мае 13,6 мільярда долараў і валодае вялікай сеткай танных крамаў Aldi – гэтыя супермаркеты вельмі ахвотна наведваюць і беларусы, калі бываюць у Германіі. Немцы заваявалі ганаровае 9-е месца.

І, нарэшце, на дзесятым месцы 71-гадовы жыхар Ганконга **Лі Ка-шы**. Ён накапіў 12,7 мільярда долараў. На жаль, мы не маем інфармацыі пра ягоны бізнес.

Цікава, што з першай шасцёркі галоўных багацеяў ніхто, апроч Уорэна Бафета і Пола Алена, не мае вышэйшай адукацыі (а Пол Ален атрымаў дыплом толькі з другой спробы). Няма вышэйшай адукацыі і ў саудаўскага прынца.

Усяго ж у свеце каля 400 чалавек маюць права афіцыйна назваць сябе «мультымільярдэрамі»— але гэта без уліку «ценевікоў», якія таксама някепска зарабляюць. ■

ІМЁНЫ

# Саліст «Ляпіса» зламаў нагу



Сяргей Міхалок

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Сярод мінскіх прыхільнікаў папулярнага беларускага гурта «Ляпіс Трубецкой» распаўсюдзілася інфармацыя, што лідэра гэтага гурта Сяргея Міхалка падчас аднаго з канцэртаў у Маскве спрабавалі сцягнуць са сцэны распаленыя фанаткі, ды так, што ён упаў і зламаў сабе нагу. Пракаментаваць гэта НАВІНЫ папрасілі самога Сяргея:

— Так. Сапраўды, я зламаў нагу, але не ў Маскве, а ў Адэсе, і не таму, што мяне сцягнулі са сцэны прыхільніцы, а таму, што саму запале выступлення занадта скакаў па сцэне. Раней у мяне ўжо была трэшчына ў правай назе, і мае скокі «дабілі» яе.

Цяпер лідэр «Ляпіса» ляжыць у сваёй кватэры ў Мінску з загіпсаванаю нагой, але доўга адпачываць не збіраецца. Нягледзячы на тое, што дактары параілі яму тры тыдні не ўставаць з ложка, Сяргей збіраецца — праўда, седзячы на табурэтцы — выступаць 27-29 чэрвеня ў Маскве на «Гукавой дарожцы».

— Ведаеце, мне і так прыйшлося адмяніць канцэрты ў Хабараўску, Уладзівастоку, а «праляцаць» міма Масквы жадання я не маю. Буду выступаць, седзячы на табурэтцы. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 563 Нумар падпісаны ў друк 24/06/99 (15:00) Наклад — 22.160